*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 24(80) ◆ 17 чэрвеня 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## КУРАПАТЫ:
### вандалізм працягваецца

*У № 22 «Нашага слова» быў надрукаваны артыкул Святланы Кліменценкі «Пякучы боль наш, Курапаты», у якім журналістка расказала пра сучасную трагедыю Курапат — вандалізм, які адбываецца на месцы масавых расстрэлаў сталінскімі катамі ні ў чым не вінаватых людзей у 1937—1941 гг. Сённяшняя наша публікацыя таксама на гэту тэму.*

*Чытайце матэрыял на с. 4.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**НА МЕСЦЫ МАСАВЫХ РАССТРЭЛАЎ У КУРАПАТАХ ПРАЙШОЎ СХОД** родных і блізкіх тых, хто загінуў ад рук сталінскіх катаў. Сход правёў арганізацыйны камітэт па стварэнні грамадска-хрысціянскага аб'яднання «Курапаты».

***У ДРУКУ З'ЯВІЛІСЯ ПАЛАЖЭННІ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Камітэце па Дзяржаўных прэміях і яго складзе. Узначаліў Камітэт народны паэт Н. Гілевіч.*

**ПРЭЗІДЫУМАМ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯТА РАШЭННЕ АБ СТВАРЭННІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЛОТА.** Праўда, паплывём мы па марах і акіянах не ў хуткім часе, бо патрэбна яшчэ купіць караблі да і атрымаць для гэтай справы грошы ад Мінфіна.

***У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ САВЕТ МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА ПРАМЫСЛАВІКОЎ І ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ.** У ім удзельнічалі прадстаўнікі з усіх краін СНД, а таксама Польшчы, Венгрыі і Балгарыі. Што ж, няхай збіраюцца разумныя людзі на нашай зямлі, можа, з цягам часу і беларусам будзе якая-небудзь з гэтага карысць.*

**У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАВА *«БЕЛАГРА—92»*.** *У ёй* удзельнічае каля 60 замежных і беларускіх фірм, якія паказалі абсталяванне па вытворчасці прадуктаў харчавання, перапрацоўцы сыравіны, выпуску ўпаковак.

***СЯРОД КРАІН — ЧЛЕНАЎ СНД РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ЗАЙМАЕ ПЕРШАЕ МЕСЦА** па вытворчасці на тысячу чалавек халадзільнікаў і маразільнікаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў каляровага адлюстравання, бытавых гадзіннікаў, веласіпедаў, матацыклаў. Цікава, дзе гэтыя тавары і хто іх можа набыць?*



Кожны з нас, відаць, прызвычаіўся, што замежную мову ў школах Беларусі выкладаюць на расійскай мове. Але так робяць не ўсе настаўнікі. Нямала энтузіястаў, якія не толькі карыстаюцца ў выкладанні беларускай мовай, але і імкнуцца навукова абгрунтаваць такую методыку. Да ліку такіх энтузіястаў адносіцца і Валянціна Адамаўна Выхота.

НА ЗДЫМКАХ: Валянціна Адамаўна Выхота; ідуць факультатыўныя заняткі ў Караваеўскай няпоўнай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна.

**Фота Міхася ХАМЦА.**



## ПОМНІК «АФГАНЦАМ» У ТРАЕЦКІМ ПРАДМЕСЦІ?

Сябры культурна - асветніцкага клуба «Спадчына» распаўсюдзілі ў сродках масавай інфармацыі адкрыты ліст да Камісіі Вярхоўнага Савета РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, а таксама кіраўнікоў г. Менска, каб не дапусціць навукова неабгрунтаванага, на іх погляд, змянення аблічча гістарычнай мясціны сталіцы Беларусі — Траецкага прадмесця.

Як вядома,— гаворыцца ў лісце,— некаторы час назад паўстала пытанне аб «устаноўцы помніка воінам-інтэрнацыяналістам, забітым у Афганістане». У конкурсе на лепшы праект помніка перамаглі, здаецца, мастакі з Днепрапятроўска. І зараз кожны, хто завітае ў Траецкае прадмесце, можа ўбачыць камень са стандартным надпісам: «На этом месте...» Сам факт з'яўлення гэтага каменя ў Траецкім прадмесці, амаль што кожнае слова ў гэтым надпісе ды прынятае рашэнне выклікаюць занепакоенасць, патрабуюць грамадскага абмеркавання. Таму мы жадаем выказаць сваё стаўленне да таго, што адбылося і яшчэ можа адбыцца.

Няма чаго казаць, што Менск, з'яўляючыся сталічным горадам, не толькі задае пэўны стандарт для іншых гарадоў і мястэчак нашае краіны, але павінен выконваць адметную ролю як асяродак беларускай культурнай спадчыны сусветнага значэння. З умацаваннем нашай дзяржавы і яе незалежнасці гэтая роля будзе толькі ўзрастаць. Таму зразумела вялікае значэнне захавання ў нашай сталіцы гісторыка-культурных зон, якія б адпавядалі падзеям гісторыі ды культурным здабыткам як нашага Менска, так і ўсёй Беларусі ды беларускай нацыі.

Так склалася нашая гісторыя, што Менск ніколі не адыгрываў галоўнай ролі ў развіцці беларускага дойлідства на працягу ўсяго існавання беларускай дзяржавы. Расійскае заняволенне нашае Бацькаўшчыны і бальшавіцкае панаванне прынеслі зруйнаванне і перапрацоўку помнікаў ды паўсюднае аб-



## З рэдакцыйнай пошты

# Яшчэ раз пра лацінку

***Сёння беларуская мова ў такім цяжкім становішчы, што трэба адразу рабіць нешта радыкальнае. А потым можна весці размову пра правапіс, мяккі знак, дзеканне і гэтак далей.***

***Ёсць, лічу, такі крок, які прымусіць карыстацца беларускай мовай: лацінка. Напрыклад, прыбалтам было лягчэй захаваць свае мовы, бо яны не падобныя да расійскай і графіка ў іх іншая. Пры гэтым трэба набліжаць лексіку да польскай мовы, пазбаўляючыся ад непатрэбных сінонімаў. Напрыклад, чым адрозніваецца беларускі сказ «Зачытайце маё пісьмо» ад расійскага «Зачитайте моё письмо»? Але ж ёсць слова «ліст». А таму «Зачытайце мой ліст» — гэта лепш.***

***І яшчэ некалькі прапаноў. Замест мяккага знака, лічу, лепш карыстацца астэрыскам (знак, падобны на націск). Што да назвы сталіцы Беларусі — Менск ці Мінск, то літара «і» вельмі добра ўжываецца, і слова Мінск мае беларускі выгляд.***

***Выбачайце за памылкі: школьныя гады прайшлі на Поўначы.***

**Б. БРАНАВІЦКІ.**

г. Менск.

**Ад рэдакцыі:** Памылкі выбачаем, але не можам пагадзіцца з некаторымі Вашымі прапановамі. Відаць, няма патрэбы «набліжаць лексіку да польскай мовы», бо беларуская мова мае свой багаты слоўны скарб. Гэты скарб — не толькі беларускі, ён належыць усяму славянскаму свету, а таксама і народам так званай індаеўрапейскай сям'і (ужо сёння ёсць падставы гаварыць пра сувязі беларускай мовы з германскімі ды іранскімі мовамі). І страта хоць бы аднаго нашага слова, замена яго іншамоўным — гэта страта звестак пра культуру нашых прашчураў, пра іх сужыццё з суседзямі, пра культурныя і гандлёвыя сувязі. Такое «набліжэнне», праўда, да расійскай мовы, ужо нанесла нашаму народу непапраўную шкоду.

Замена адной толькі літары ў назве нашай сталіцы («слова *Мінск* мае беларускі выгляд»,— пішаце Вы) на сотні гадоў скарачае гісторыю нашага горада. Археолагі ўжо пацвердзілі меркаванне некаторых гісторыкаў, што Менск існаваў задоўга да таго часу, калі ён упершыню згадваецца ў летапісах, ды ўзнік ён на рацэ Менцы, прытоку Пцічы.

Што да сказа «Зачытайце маё пісьмо», які асабліва часта гучыць па радыё, то і нам здаецца, што ў ім няма нічога беларускага. І лепш, відаць, ліст прачытаць, а не зачытаць.

# ЯК ГЕНЕРАЛЫ З МОВАЙ ВАЮЮЦЬ

***З прэс-канферэнцыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў***

Калі наша грамадства, дзякуючы намаганням нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, наблізілася да вырашэння задач беларусізацыі, то войска Рэспублікі Беларусь усё яшчэ знаходзіцца ў сапраўдным балоце. Пэўнае тлумачэнне гэтаму ёсць. Да прыкладу, у афіцэрскім асяроддзі гэтага войска ўсяго толькі пятая частка беларусаў. Так ужо склалася, што нашы землякі траплялі на службу часцей у Сярэднюю Азію і на Далёкі Усход, абжываючы там гарнізоны. А тыя праблескі нацыянальнай свядомасці, якія цяпер выяўляюцца ў асяроддзі беларусаў-афіцэраў, усяляк заціраюцца. Менавіта да такой высновы можна было прыйсці, слухаючы адказы на пытанні журналістаў — актывістаў Беларускага згуртавання вайскоўцаў падчас канферэнцыі, наладжанай у Доме літаратара.

Намеснік старшыні БЗВ палкоўнік Уладзімір Савянок расказаў прысутным пра сітуацыю, якая склалася ў Барысаўскім ваенным гарнізоне:

— Мне давялося пабываць у акруговым вучэбным цэнтры. І вось як адзываецца там камандаванне пра маёра Міхася Варанца: «Занадта апантана займаецца беларушчынай». І гэта замест таго, каб разгледзець у ім свайго саюзніка, нястомнага памагатага. А камандзір падраздзялення так сказаў пра свайго падначаленага: «Нацыяналіст». Пытаюся, маўляў, чаму? У адказ: «Таму, што размаўляе па-беларуску». Больш таго. Прадметам абмеркавання на генеральскім узроўні стаў і той факт, што заняткі па гуманітарнай падрыхтоўцы Міхась Варанец праводзіў на беларускай мове. Тым больш, што ў той роце служаць толькі прызыўнікі з Беларусі. Ды і салдаты не супраціўляліся выбару мовы. Маёру Варанцу забаранілі весці заняткі.

Я пагутарыў з генераламі (дарэчы, абодва беларусы), што вяршылі суд над Варанцом, паўшчуваў іх, нагадаў, што прайшоў час вайсковых запаведнікаў. Пагадзіліся, нават дазвол далі размаўляць па-беларуску з салдатамі, але толькі ў курылцы. А каб непаваднa было займацца Варанцу сваёй «нацыяналістычнай» дзейнасцю, яго перавялі ў падраздзяленне, дзе даслужваюць свой тэрмін казахі.

Пра беларусізацыю ў войску не можа быць гаворкі да таго часу, пакуль не зменіцца стаўленне да дзяржаўнай мовы ў камандавання Узброенымі сіламі рэспублікі. Магчыма, дзеля гэтага варта памяняць само камандаванне?

У вайсковыя падраздзяленні беларускія кнігі і газеты не трапляюць, хаця сёння існуюць у войску адпаведныя выхаваўчыя структуры, для якіх працэс беларусізацыі павінен быў бы стаць адным з найгалоўнейшых клопатаў. Працуюць у воінскіх фарміраваннях, гарнізонах салдацкія клубы, дамы афіцэраў. І дзіўна, што найперш ёсць справа да беларускай культуры, гісторыі, да роднага слова ў суполках БЗВ, што працуюць у Казахстане, Цверы, Маскве.

Вяртанне да роднага слова магчыма ў войску, як і ва ўсім, дарэчы, грамадстве, толькі з дапамогай шырокага патрыятычнага выхавання. Пра гэта і гаварыў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні БЗВ кандыдат тэхнічных навук падпалкоўнік Мікола Бірукоў:

— А мы яшчэ па сённяшні дзень абгаворваем пытанне вайсковай прысягі. Ніводны вайсковы кіраўнік яшчэ не прысягнуў на вернасць Рэспубліцы Беларусь. То каму мы тады служым?..

БЗВ у вайсковым асяродку папракаюць у нацыяналізме. І гэтая тэма закранілася на прэс-канферэнцыі. Кіраўніцтва грамадска-патрыятычнай арганізацыі падкрэсліла, што ўдзел у працы згуртавання прымаюць прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей. А што да іх вернасці і адданасці Беларусі, дык гэта не з'яўляецца нацыяналістычным адхіленнем.

**А. КУТ.**

# Помнік «афганцам» у Траецкім прадмесці?

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).*

маскоўленне ва ўсіх сферах духоўнага жыцця і матэрыяльнай культуры. Знішчэнне старажытнай назвы нашага горада — Менск, а таксама Святадухаўскай царквы XVII ст.— жамчужыны беларускай архітэктуры, Ратушы, кляштараў дамініканцаў і бенедыктынак ды, ужо на нашых вачах, Замчышча, Нямігі і будынка гарадскога тэатра — гэты далёка не поўны марталог паўстае як неаплатны рахунак арганізатарам і выканаўцам жудаснага генацыду.

І ўсё ж насуперак жахліваму руху падзей у нашым горадзе захавалася, што адзначыў яшчэ Мікола Шчакаціхін, некалькі цікавых у сваёй адметнасці груп забудоў, маючых немалую каштоўнасць. Да такіх належыць, безумоўна, і Траецкае прадмесце. Яно ўзнікла як пасад у XVI ст., хоць, як сведчаць раскопкі, культурная дзейнасць адбывалася там яшчэ ў XII ст. Адрэстаўраваны і ўзноўлены для жыцця, гэты комплекс разам з прылеглай часткай ракі Свіслач з'яўляецца натуральным музеем, захоўваючы стыль і ўзоры гарадской мураванай забудовы XIX ст. Арганічна прынялі старыя муры шматлікія крамы, кнігарню, аптэку. Прыносяць плён і радасць музеі, не пустуюць кафэ. Склалася пэўнае асяроддзе з вызначаным функцыянальным накірункам, асноўнай рысай якога з'яўляецца гарманічнае суіснаванне гісторыка-культурных і побытавых гарадскіх традыцый і інтарэсаў жыхароў сучаснага мільённага горада. Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў кожным акрэсленым асяродку складваецца таксама пэўны вобраз яго ўспрыняцця людзьмі, што можа трактавацца як своеасаблівая ментальнасць гэтага месца і што ў сваю чаргу ўплывае на фарміраванне ментальнасці асобы. Такі куток утвараецца на працягу стагоддзяў, таму кожны новы элемент пабудовы, помнік ці нават шыльду трэба ўносіць у гэты асяродак з вялікай адказнасцю, каб не парушыць гісторыю, не ўнесці выпадковае і неўласцівае гэтаму месцу, што дзейнічала б на ўвесь ансамбль разбуральным чынам. На нашай зямлі ёсць шмат такіх жудасных прыкладаў знішчэння гісторыка-культурнай спадчыны. Што б ні казалі зараз дзеля свайго апраўдання тыя, хто аддаваў такія загады і іх выконваў, станцыя метро на старажытным менскім Замчышчы ці кароўнік ля муроў Гальшанскага замка XVI—XVII ст ст.— гэта злачынства супраць нашай гісторыі, нашых продкаў, а значыць, і супраць нас. Калі ў справе аховы нашай спадчыны зыходзіць з гэтакіх высноў ды ўрэшце ўсвядоміць, што на нас ляжыць адказнасць за яе лёс, то неабходна шчыра сказаць: прапанова ўстанавіць згаданы помнік у Траецкім прадмесці катэгарычна не можа быць падтрымана, нягледзячы на прынятыя рашэнні ды дадзеныя клятвы, і павінна быць скасавана.

Па-першае, гэты помнік у любым яго праекце супярэчыць гістарычным зместу і часу, якія ўвасоблены ў Траецкім прадмесці, недапушчальнасць чаго згадвалася вышэй. Магчымы, аднак, выключэнні з гэтага правіла. Выразным прыкладам тут можа служыць помнік Адаму Міцкевічу ля Бернардынскіх муроў у Вільні. Узведзены ў XX ст. побач з выдатным помнікам беларускай готыкі XVI ст., ён выглядае тут арганічным і ўспрымаецца як развіццё агульнай эстэтычнай традыцыі, якая яднае старажытныя муры і пазнейшы помнік. Нічога гэтага няма і не можа адбыцца ў сітуацыі з «афганскім» помнікам у Траецкім прадмесці. І справа тут не ў няўдалых праектах ці ў няўмелых выканаўцах, хоць выглядае сімптаматычным, што ні грамадскасць, ні беларускія мастакі не зацікавіліся прадстаўленымі праектамі і самім конкурсам. Для гэтага існуюць аб'ектыўныя прычыны. Не жыццяздольна і менавіта таму не можа быць мастацкім шляхам увасоблена сама ідэя помніка ў Траецкім прадмесці. Любое архітэктурна-мастацкае рашэнне — крыж, царква ці капліца — ніякім чынам не могуць быць уключаны ў яго гістарычны кантэкст. І гэта зразумела, бо падзеі вайны ў Афганістане адбываліся на тэрыторыі і ў часы, якія не маюць аніякага дачынення ні да гісторыі, увасобленай у Траецкім прадмесці, ні да спадчыны нашых продкаў. Не трэба казаць пра той «афганскі сіндром», які звычайна суправаджае святкаванне кожных угодкаў падзей той вайны,— гэта было б для Траецкага прадмесця і яго жыхароў сапраўдным кашмарам.

Па-другое. Ужо зараз камень з надпісам аб будучым «афганскім» помніку выглядае як цяжар, які мы, нашчадкі, пакладзём ці мо ўжо паклалі на душы сваіх продкаў. Трэба аднак памятаць, што, акрамя законаў мастацтва і прыгажосці, існуюць яшчэ і законы маралі. Мы, хоць і ў розпай ступені, вінаватыя, што гэтая вайна адбылася. Мы, але не нашы продкі, і таму, калі пытанне аб збудаванні помніка забітым у Афганістане вайскоўцам дыскусіі не падлягае (ён павінен быць збудаваны), то пытанне аб месцы, дзе ён паўстане, з'яўляецца амаль што ці не вызначальным. Не падлягае сумненню, што недапушчальна ставіць помнікі афганскай вайне ў старажытных асяродках, таму што гэта немаральна ў адносінах да тых людзей, што там некалі жылі і не маюць граху гэтай вайны на сваёй душы. Мы павінны пакінуць іх душы ў спакоі.

Разгляд пытання аб «афганскім» помніку вымушае закрануць таксама і другую праблему. Калі кажуць аб «афганцах», «воинах-интернационалистах, погибших в Афганистане», трэба заўсёды памятаць і аб сапраўдных афганцах — спрадвечных жыхарах Афганістана. Яны не выконвалі ніякага «интернационального долга», бо не ведалі, што гэта такое, але адвалі абаранялі сябе і сваю зямлю ад чужынцаў. Аб гэтым сведчаць помнікі на нашых могілках. Трэба памятаць пра насельніцтва Афганістана — дзяцей, жанчын і старых, якія ў час ваенных дзеянняў маглі разлічваць хіба што на Бога. Лік ахвяр сярод афганскага насельніцтва ідзе на мільёны. Вось хто сапраўдныя афганцы і сапраўдныя ахвяры вайны ў Афганістане!

Мы разумеем слёзы маці, якая страціла сына, бо яна страціла ўсё. Незразумелым застаецца, чаму нашае грамадства ўсё яшчэ не дало менавіта маральнай ацэнкі гэтай вайне. І вось зараз выдалася такая магчымасць. Пачаткам такога працэсу маральнага ачышчэння і накаяння магла б стаць ідэя супольнага помніка ўсім ахвярам афганскай вайны, аб якіх плачуць і афганскія і беларускія маці. Вядома некалькі гарадскіх сквераў, узніклых у апошні час, з малавыразнымі назвамі тыпу «50 лет Октября», «Дружба народов СССР», «Севастопольский парк», замест якіх цяпер страчаны. Яны, на наш погляд, маглі б стаць пасля адпаведнага вывучэння мемарыяльным месцам.

Ёсць прыгожае паэтычнае паданне аб тым, як адзін раз на год, у Купальскую ноч конь Менеска скача з Пярэспы на пляц Верхняга горада, каб знайсці страчаную падкову. Шлях яго не можа абмінуць Траецкае прадмесце. Дык пакіньма ж яму гэты шлях чыстым,— заклікаюць сябры клуба «Спадчына».

 

*Чыталі?*

Працэс пашырэння і ўсталявання асяродкаў роднай мовы на Беларусі натыкаецца на моцнае супраціўленне. З аднаго боку — паланізатары, з другога — русіфікатары. Звернемся да дзейнасці Беларускай праваслаўнай царквы.

Сёлета выдавецтва «Полымя» выпусціла ў свет зборнік-інтэрв'ю «Беседы с митрополитом Филаретом». Субяседнік рэлігійнага дзеяча — літаратуразнаўца Валерый Няфёдаў. Раней гутаркі друкаваліся ў часопісе «Беларусь», газетах «Літаратура і мастацтва», «Литературная Россия», гучалі ў перадачах па радыё. Вось што, у прыватнасці, адказаў мітрапаліт Філарэт на просьбу ўдакладніць пазіцыю царквы па нацыянальнамоўнай праблеме: «А тое, што руская мова глыбока ўвайшла ў рэчаіснасць нашага шматнацыянальнага грамадства, дык тут, канешне, не трэба шукаць ніякай пагрозы нацыянальнай беларускай культуры. Яна ў нас паспяхова развіваецца». І далей: «Ёсць людзі, якія сёння чамусьці вінавацяць абавязкова рускіх ва ўсіх сваіх балячках».

# *Мітрапаліт Філарэт пра беларускую мову*

Але даруйце, шаноўны, тут ці не свядома змешваюцца два паняцці: рускія як прадстаўнікі пэўнай нацыі і Расія як імперыя. Хіба ж беларусы ствараюць на Беларусі нацыянальную напружанасць? Як на мой прыватны погляд, то гэта ў адносінах да беларусаў на роднай іх зямлі ствараецца напружанасць.

Добра, канешне, што мітрапаліт Філарэт турбуецца пра сучасны пераклад на беларускую мову Святога Пісання. Але ж літаральна паўсюдна, дзе рэлігійны дзеяч гаворыць пра стаўленне Беларускай царквы да адраджэнскіх працэсаў, у падтэксце сказанага, на маю думку, гучыць сумненне ў прыдатнасці беларускай мовы для слова божага.

З чым можна пагадзіцца з мітрапалітам Філарэтам, дык гэта з яго перакананнем, што адным толькі заканадаўчым актам нельга прыцягнуць усіх жыхароў рэспублікі, тым больш не беларусаў, да вывучэння беларускай мовы:

«Трэба, каб сам чалавек адчуў, што вывучэнне роднай мовы дапамагае ў разуменні, асэнсаванні найвышэйшых каштоўнасцей сапраўднага, добрага і прыгожага на той зямлі, дзе ён жыве і працуе, дзе нарадзіліся яго дзеці, што гэтая мова пашырае магчымасці яго кантактаў з цікавымі людзьмі». І далей: «Са свайго боку наша царква ўсяляк заахвочвае вывучэнне беларускай мовы, бо гэта прыводзіць да больш глыбокага разумення вялікай значнасці беларускай культуры, што, у сваю чаргу, безумоўна, спрыяе больш цесным міжнацыянальным зносінам людзей у нашай рэспубліцы».

На словах атрымліваецца, што царква нібыта спрыяе пашырэнню беларускай мовы, на справе ж царкоўная служба амаль паўсюдна ў рэспубліцы ідзе на рускай мове. І гэта лічыцца нармальнай з'явай. Вось і згаданая кніга выдадзена на расійскай мове; а ўявіце сабе, які быў бы эфект, калі б дваццацітрохтысячны наклад «Бесед с митрополитом Филаретом» прыйшоў да вернікаў на мове дзяржаўнай. У такім выпадку слова мітрапаліта Філарэта сапраўды паслужыла б справе адраджэння роднага слова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# АДРАДЖЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ І МОВЫ

У Рэспубліцы Беларусь няма нацыянальнай — паводле мовы, зместу, ідэалогіі — школы. Для распрацоўкі яе канцэпцыі вельмі важна вылучыць і прыняць стратэгічныя і тактычныя накірункі. На наш погляд, канцэпцыю адраджэння і стварэння сістэмы нацыянальнай адукацыі трэба рабіць паводле сучасных радыкальных прынцыпаў і, зразумела, толькі на дзяржаўным узроўні. Адна з найважнейшых перадумоў яе ажыццяўлення — дэмакратычнае грамадства і адпаведныя органы ўлады, якія на дзяржаўным узроўні забяспечаць беларусам магчымасць жыць, вучыцца, працаваць, адпачываць у моўным асяроддзі свайго народа.

Нацыянальная адукацыя ў поўным аб'ёме ў сістэме выхавання і навучання павінна быць беларускамоўнай, як у Нямеччыне — нямецкамоўная, у Францыі — французскамоўная, у Расіі — расійскамоўная. А таму для выратавання нацыі ад духоўнага генацыду тэрмінова неабходна закласці трывалыя падмуркі для роднай мовы. Зрабіць гэта проста немагчыма, калі не ацэнім так званае двухмоўе, як шкодную канцэпцыю. Нам трэба ясна ўявіць прафесійную (як настаўнікам-асветнікам) і нацыянальную (як беларусам) адказнасць не толькі перад сваім народам, але і перад усімі народамі свету. Людзі не павінны дазволіць загінуць ні адной мове, ні адной культуры, якой бы «нізкай» ці «нецікавай» яна камусьці ні ўяўлялася.

Трэба адкінуць тэзіс аб так званай роўнасці і блізкасці рускай і беларускай моў. Нашай мове, кожнаму беларусу, усяму грамадству патрэбна не фактычная няроўнасць у фальшывай роўнасці, а незалежнасць і самастойнасць.

У канцэпцыі моўнай адукацыі («Настаўніцкая газета» ад 14 сакавіка 1992 г.) прадугледжваецца абавязковае валоданне беларускай мовай, этнамовай, расійскай і замежнымі мовамі. За якія грахі беларусу абавязкова трэба ведаць расійскую мову? Дзе, у якой краіне гэта магчыма, каб адну мову ставілі вышэй за іншыя замежныя мовы, у тым ліку і вышэй за нацыянальную?

Насцярожвае і тэрмін «этнамова» — без адпаведнага абгрунтавання і тлумачэння. Як вядома, на Беларусі гістарычна склаўся адзін этнас — беларусы. Калі ж гутарка ідзе пра дыялекты, тады — іншая справа.

Будзем пільнымі. Калі расійскай мове будзе нададзены статус замежнай, а па канцэпцыі Міністэрства адукацыі замежную мову прапануецца вывучаць з першага класа і нават у дзіцячым садзе, то тым, хто не бачыць Беларусь без расійскай мовы, ён паслужыць для знішчэння беларускай мовы.

Трэба вельмі дакладна акрэсліць месца расійскай мовы ў сістэме адукацыі, пазбавіць яе прывілеяў, якія так спрычыніліся да вынішчэння беларускай мовы. Трэба адмовіцца і ад тэзіса так званага двухмоўя. Жыццё пацвердзіла, што пад лозунгам двухмоўя фактычна ажыццяўлялася і сёння на Беларусі праводзіцца палітыка аднамоўя — на карысць замежнай (расійскай) мове. Неабходна прынцыпова вызначыць, зыходзячы з рэальнасці і высокіх, агульначалавечых, сусветных мэт нацыянальнага Адраджэння, з якога класа пажадана ўводзіць вывучэнне расійскай мовы як замежнай. Наогул, прыярытэт замежнай мовы трэба вызначаць з пазіцыі дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, перспектыў яе палітычных, эканамічных, тэхналагічных, навуковых, культурных ды іншых інтарэсаў. А таму, відаць, неабходна ўнесці адпаведныя змены ў Закон аб мовах.

Поспех адраджэння нацыянальнай школы ў значнай ступені вызначаюць выкладчыкі. На вялікі жаль, яны атрымалі савецкую адукацыю, якая знішчала і ў большай частцы гэтай інтэлігенцыі забіла нацыянальную свядомасць. Асаблівую заклапочанасць павінен выклікаць так званы кіраўнічы корпус на ўсіх узроўнях адукацыі. Большасць дырэктараў школ, тэхнікумаў, ВНУ занялі свае пасады ў той час, калі нацыянальна свядомы чалавек не мог быць і блізка дапушчаны да кіраўніцтва. І вось гэтую гіганцкую антынацыянальную піраміду трэба разбурыць цывілізаванымі метадамі.

Зразумела, што дэмакратычная нацыянальная канцэпцыя адукацыі забяспечыць жыхарам Беларусі іншых нацыянальнасцей, згодна з міжнародным правам і законам нашай рэспублікі, развіццё іх нацыянальных школ у той форме, у якой яны самі пажадаюць.

Беларуская сістэма адукацыі павінна быць скіравана на эфектыўнае нацыянальнае Адраджэнне і развіццё ўсяго нашага грамадства.

**Мікола САВІЦКІ,**
**доктар эканамічных навук.**

*Ліст з Англіі*

# Хачу папярэдзіць наконт ксяндзоў

*Хаця ў «Нашым слове» замнога рэкламуецца уніяцтва (мне ажно «вочы апухлі», чытаючы), аднак няма зласлівых артыкулаў пра беларускую эміграцыю, таму Вам і пішу.*

*Мушу папярэдзіць адносна уніі. Гэта не вера, а толькі пераходны лагер у каталіцызм. А каталіцызм, так ужо сталася,— беларусам чужая вера, бо вядома, каму заўсёды служыў — польскай экспансіі. Аб гэтым я пісаў да англічаніна прафесара Джэймса Дынглі, які гэтым захапляецца. Нельга лічыць разумным і тое, што некаторыя беларускія вучоныя, якія, дарэчы, не так даўно ўслаўлялі «советскую родину» ды ленінізм, «пераселі» з «чырвонага каня» на «Пагоню» пад бел-чырвона-белы сцяг, зрабіліся раптам веруючымі ў Бога і не вылазяць з Ватыкана, цалуючы ручкі і ножкі папе рымскаму, каб узяў беларусаў пад «святую» апеку. А што ўрэшце? Сёння беларускі праваслаўны народ, перад тым амаль задушаны бязбожным бальшавізмам, таўчэцца ў чэргах за каўбасою і хлебам і таму мала звяртае ўвагі на нашэсце польскіх ксяндзоў, але праз каторы час можа быць позна. Бо не дай Бог фанатыкі ўчыняць рэлігійную авантуру на Беларусі падобна той, што сталася ў Паўночнай Ірландыі, дзе ўжо два дзесяцігоддзі льецца кроў паміж людзьмі адной нацыянальнасці, але ж каталікамі і пратэстантамі па веравызнанні.*

***С. ШЧЭРБА.***
***Англія.***

**АД РЭДАКЦЫІ: Падзяляем заклапочанасць сп. Шчэрбы, што не на карысць беларускай справе заўзятая падтрымка каталіцызму, які імкнецца прапагандаваць польскасць (некаторыя ксяндзы нават вывешваюць у касцёлах адпаведныя сцягі і вучаць вернікаў зусім не беларускай мове), але нельга пагадзіцца і з тым, што ў гэтым сэнсе праваслаўе бязгрэшнае. Дастаткова нагадаць, што служба вядзецца ў храмах на расійскай мове, шматлікія кнігі выдаюцца на ёй жа. Мала таго, зараз не толькі каталіцкае, але і праваслаўнае святарства дамагаецца будынкаў (і часта атрымлівае іх), дзе размешчаны музеі беларускай культуры, падштурхоўваючы вернікаў крышыць і выкідваць каштоўныя экспанаты на вуліцу. У друку ўжо прыводзіліся поўныя роспачы словы лідэра БНФ, народнага дэпутата рэспублікі Зянона Пазьняка з інтэрв'ю газеце «Свабода» (№ 11, 1991): «Я дваццаць пяць гадоў жыцця аддаў ахове помнікаў гісторыі і культуры. Гэта было знясільваючае змаганне з бальшавіцкімі чыноўнікамі, з усёй гэтай д'ябальскай сістэмай. І ведаеце што здзіўляе? Праваслаўнае й каталіцкае святарства... пальцам не паварушылі, каб дапамагчы беларускай інтэлігенцыі і энтузіястам ратаваць ад разбурэння цэрквы, касцёлы, кляштары, крыжы, капліцы, могілкі. Калі што тут і засталося пасля бальшавікоў (а ў Менску, напрыклад, прыйшлося змагацца за кожны дом), то гісторыя павінна быць удзячная беларускай інтэлігенцыі. Дарэчы, і атэістычнай таксама. У той самы час ксяндзы і папы сядзелі ціха, як мышы, і нават тлусцелі ад бяздзеяння».**

**Так што беларусам яшчэ давядзецца адраджаць і рэлігію, якая б не пагарджала нацыянальнымі інтарэсамі. Таму рэдакцыя дае магчымасць выказацца прадстаўнікам усіх канфесій, калі яны дбаюць пра беларусаў, якіх Бог благаславіў таксама «людзьмі звацца», а не проста быць чалавечым матэрыялам для будаўніцтва чужога дабрабыту.**

# Перагортваючы старонкі амерыканскага «Беларуса»

У мінулым годзе на старонках «Нашага слова» час ад часу змяшчаліся агляды «Беларуса» — газеты, што выдаецца на беларускай мове ў Злучаных Штатах Амерыкі. На жаль, і ў гэтым годзе мы атрымліваем яе з-за мяжы нерэгулярна, таму сёння знаёмім нашых чытачоў са зместам толькі сакавіцкага нумара.

Вялікая частка матэрыялаў у ім прысвечана Дню незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, які штогод адзначаецца 25 сакавіка. Сярод іх, безумоўна, прыцягне ўвагу чытачоў артыкул Зоры Кіпель «25-га сакавіка — аснова беларускай дзяржаўнасці». Тут жа надрукавана карта БНР у яе этнаграфічных межах.

Другая старонка нумара адкрываецца зваротам ініцыятыўнай групы рэферэндуму да грамадзян Беларусі. Відавочна, што тут чытача зацікавіць і невялічкая нататка беларускага паэта Сержука Сокалава-Воюша «Якой будзе заўтра абарона незалежнай Беларусі», дзе ён закранае праблемы стварэння беларускага нацыянальнага войска.

Старшыня Каардынацыйнага Камітэта беларусаў Канады д-р Раіса Жук-Грышкевіч расказвае пра святкаванне 100-гадовага юбілею вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча ў Таронта, якое адбылося 15 снежня 1991 года. Урачысты сход беларусаў Канады адкрыў старшыня Згуртавання сп. Мікола Ганько. З дакладам аб творчасці Максіма Багдановіча выступіла д-р Раіса Жук-Грышкевіч.

Пад рубрыкай «Навінкі друку» падаецца кароткі агляд беларускіх замежных перыядычных выданняў. Тут надрукаваны таксама ўрыўкі з новай кнігі вядомага прыхільніка беларускай гісторыі і культуры Гая Пікарда «Алегарычная геральдыка Францішка Скарыны» ў перакладзе на беларускую мову. На гэтай жа старонцы змешчаны цікавы артыкул «Да гісторыі англа-беларускае лексікаграфіі» — пра перспектывы развіцця беларускага слоўніцтва, якія адкрыліся яшчэ ў 20-я гады.

Рэдакцыя «Беларуса» атрымлівае шмат лістоў ад сваіх чытачоў з розных краін свету, у тым ліку і з Беларусі. Падборка іх сістэматычна змяшчаецца пад рубрыкай «З рэдакцыйнай пошты».

На апошняй старонцы газеты друкуюцца абвесткі, некралогі і, як звычайна, падаецца інфармацыя аб паступленні ахвяраванняў на выдавецкі фонд «Беларуса».

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**



 

## Вучымся!

# ЗЯМЛЯРОБ ЦІ ХЛЕБАРОБ?

*Земляробам* на Беларусі называюць селяніна — чалавека, які апрацоўвае зямлю. Гэтае слова надта выразнае, празрыстае і натуральна матывуецца: *зямляроб* — той, хто *зямлю робіць*, г. зн. працуе на зямлі, апрацоўвае яе. Ён арэ, сее зерне, жне збажыну, малоціць, а таму ён і *араты*, і *сявец (сейбіт)*, і *жнец*, і *малацьбіт*... Збожжа меле на муку, якой корміць жывёлу, а таксама пячэ хлеб. І слова *хлеб* у нашай мове мае толькі значэнне «спечаны з мукі выраб». А для абазначэння злакаў і зерня выкарыстоўваюцца іншыя словы — *збажына* і *збожжа*.

Расіяне ж не толькі пякуць, але і аруць, сеюць і жнуць *хлеб*. З гэтае прычыны і выкарыстоўваюцца ў расійскай мове шматлікія сінанімічныя назвы як гэтай працы, так і яе выканаўцаў: *земледелие, хлебопашество, хлеборобство, земледелец, землепашец, пахарь, хлебопашец* і *хлебороб*.

Слова *хлебороб* (таксама і назва самой працы *хлеборобство* — сінонім да *хлебопашество*) у расійскую мову прыйшло з украінскае як эквівалент лексемы *хлебопашец*. Заменнікам гэтага ж слова трапіла яно і ў нашыя перакладныя слоўнікі, складальнікі якіх не шанавалі ўласныя рэсурсы беларускай мовы. Іх не збянтэжыў і той факт, што расійскае *хлебопашец* непасрэдна матывуецца словамі *хлеб пахать*, і сінонімам яго выступае слова *земледелец*. Беларусы ж хлеб не аруць і не сеюць, не жнуць, а толькі пякуць. Таму слову *хлебопашец* адпавядае толькі *зямляроб*. І слову расійскай мовы *хлебороб* (як сіноніму да *земледелец, землепашец, хлебопашец*) таксама адпавядае лексема *зямляроб*.

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 5, кніга другая, Мн., 1985, с. 201), падаючы гэтае слова, тлумачыць яго так: «ХЛЕБАРОБ. Той, хто займаецца хлебаробствам». А слова *хлебаробства* падае як «апрацоўку зямлі для вырошчвання хлеба... Занятак хлебароба». Але ж беларусы вырошчваюць не *хлеб*, а *збажыну*, што засведчана гэтым жа слоўнікам. У другім яго томе (Мн., 1978, с. 430) чытаем: «ЗБОЖЖА. 1. Агульная назва хлебных злакавых раслін, з зерня якіх вырабляецца мука і крупы. 2. Зерне, насенне гэтых раслін». Складальнікі «Тлумачальнага слоўніка...» не знайшлі пісьменніка, які б ужыў гэты штучны наватвор, таму падалі газетны штамп: *Сяўба для хлебароба заўсёды была экзаменам. «Звязда»*. Нагаданы пяты том «Тлумачальнага слоўніка...» (кніга другая, рэдактар тома М. Р. Суднік, на той час дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР), выдадзены ў самы разгар «барацьбы за камунізм, за зліццё моваў», ужо не згадвае словы *збожжа, збажына*, пададзеныя ў другім томе, і дае *хлеб* з усімі тымі значэннямі, што і ў расійскай мове.

Двухтомны «Русско-белорусский словарь» 1982 года (т. II, с. 569) слова ХЛЕБ і вытворныя ад яго перакладае дыферэнцыяльна: «1. Хлеб... 2. (*зерно*) збожжа... 3. *(хлебные злаки)* збожжа, збажына... ХЛЕБНЫЙ 1. *(относящийся к печёному хлебу)* хлебны, 2. *(относящийся к зерну)* збожжавы...»

У двухтомным «Беларуска-рускім слоўніку» пададзена 27 слоўнікавых артыкулаў з словам *збожжа* (т. 1, Мн., 1988, с. 498), якому ў расійскай мове адпавядае слова *хлеб*. Праўда, на старонках другога тома (Мн., 1989) чытаем: *хлебаздача — хлебосдача, хлебапастаўкі — хлебопоставки, хлебародны — хлебородный*. Усё гэта сведчыць пра няўпэўненасць складальнікаў (і рэдактара) у правамернасці таго, што яны робяць, перакрэсліваючы сваю ж працу ў першым томе гэтага слоўніка. Яны механічна ўнеслі ў беларускую частку перакладных слоўнікаў не беларускае слова *хлебароб* як адэкватнае расійскаму *хлебопашец, хлебороб*. Дык няўжо мы, беларусы, калі верыць складальнікам слоўнікаў, не збожжа сеем і жнём, а *хлеб*, займаемся не *земляробствам*, а «хлебаворывам», «хлебажнействам», а наш *зямляроб* перастаў *рабіць зямлю* (абрабляць, апрацоўваць яе), а ператварыўся ў «хлебаратая» («хлебааратага») і «жнецахлеба». Але ж ідэя зліцця моў была, відаць, мацнейшая за ўсведамленне нацыянальнага гонару, і яны, складальнікі (і рэдактары), выбралі тое, што ім было больш патрэбнае на той час, што прыносіла нейкую выгоду.

Сёння, калі адраджаецца наша дзяржаўнасць, наша нацыянальная духоўнасць, беларуская культура і мова, мы мусім вярнуць страчанае, зганьбаванае сталіншчынаю роднае слова, адкінуўшы чужое.

Дык хвала нашым *земляробам!* Хай яны робяць зямлю прыдатнаю для збажыны, каб быў ураджайны палетак, каб даў ён шмат збожжа. Каб было што малоць нашым мельнікам-млынарам, каб хлеб духмяны пяклі пекары.

**Павел СЦЯЦКО.**

# Кароткі слоўнік эканомікі



**КЛІРЫНГ. Слова мае англійскае паходжанне і ягонае першапачатковае значэнне — *расчыстка*. У эканоміцы стала азначаць сістэму безнаяўных (не трэба адразу плаціць грошы) разлікаў за тавары, паслугі ці каштоўныя паперы. Грунтуецца на ўзаемным заліку сустрэчных патрабаванняў і абавязацельстваў. Упершыню прымянілі англійскія банкі яшчэ ў XVII стагоддзі. Цяпер шырока распаўсюджаны як ва ўнутраных, так і ў міжнародных разліках. У апошнім выпадку — гэта валютны К. Разлікі тут вядуцца шляхам заліку ўзаемных паставак тавараў, а выплата наяўнай валютай ці золатам адбываецца толькі на суму розніцы ў таварных пастаўках ці паслугах, калі ў канцы года высвятляецца, што нехта некаму тавараў перадаў больш, чым атрымаў. Бываюць двух-, трох- і шматбаковыя клірынгі.**

**КВОТА. Паходжанне позналацінскае, першапачатковае значэнне — *частка, доля*. У эканоміцы — колькасная мяжа тавараў пэўнай катэгорыі, на якую атрыманы дазвол улады на ўвоз у краіну. К. мае мэту зберажэння замежнай валюты ад празмернага вывазу, а таксама ахову мясцовай прамысловасці ад канкурэнцыі эканамічна больш моцных суседзяў. Гэта мера садзейнічае таксама ахове занятасці мясцовага насельніцтва.**

***Называйце па-беларуску***

# Крынічнік-дуброўка



З травы пазіраюць на вас дробныя цёмна-блакітныя (часам сінія або фіялетавыя) кветкі, нібы вочкі. Калі ўважліва прыглядзецца да іх, то можна ўбачыць, што сабраны яны ў суквецці, падобныя на каласок. Гэта кветкі крынічніка-дуброўкі, невысокай (10—20 сантыметраў) раслінкі. Яе суквецці-гронкі вырастаюць папарна, адно насупраць другога, з сцябліны, на якой гэтак жа сядзяць зубчастыя яйкападобныя лісты. Чатыры пялёсткі кветкі зрасліся ды так і ападаюць праз дзень пасля таго, як распусціліся. Таму батанікі жартам называюць дуброўку мужчынскай ці жаночай вернасцю.

А яе афіцыйная назва — *вераніка хамэдрыс* (ад лацінскіх слоў «вэрус» — сапраўдны ды «уніцыс» — адзіны). Навуковая назва *хамэдрыс* (паходзіць ад грэчаскіх слоў «хамай» — нізкі і «дрыс» — дуб), якую, відаць, можна перакласці, як «нізкі дубок», падобная да народнай беларускай — *дуброўка*. Зоська Верас у сваім «Беларуска-польска-расейска-лацінскім батанічным слоўніку», нядаўна перавыдадзеным Беларускім кааператыўна-выдавецкім таварыствам «Адраджэньне», падае іншую назву гэтай расліны — *палейка*, якая распаўсюджана на Гродзеншчыне. На Магілёўшчыне яе называюць *расходнікам, трыдзевяткай, вужоўнікам*.

# Срэбнік

Срэбнік расце ў нас амаль паўсюдна. Асабліва ўпадабаў ён тарфяністыя лугі, абочыны дарог і сядзібныя дзядзінцы. Яго тонкія ды доўгія паўзучыя сцябліны не ломяцца, калі іх топчуць. Часам толькі ліст, які складаецца з 6—10 пар зубчастых лісткоў, перавернецца ды заблішчыць на сонцы. Серабрысты колер ніжняй частцы ліста надаюць белаватыя шаўкавістыя валаскі. На такую асаблівасць расліны звярнулі ўвагу на Брэстчыне ды на Гродзеншчыне (там называюць яе *срэбнікам* або *срэбрыкам*), а таксама і на Магілёўшчыне (называюць яе *сярэбранікам)*. Не маглі нашы продкі не ўбачыць, што гэтае лісце ахвотна шчыпаюць гусі, а таму дзе-нідзе срэбнік называюць *гусінай лапкай, лапкай* ці *лапкамі*.

Вучоны свет ведае толькі адну назву расліны — *патэнтылля анзерына*. Яна паходзіць ад лацінскага «патэнцыя» — сіла, моц, бо даўней гэтай траве прыпісвалі моц супраць дзеяння шматлікіх хваробаў, што пацвярджаецца ўтрыманнем у ёй дубільных рэчываў. Слова ж *анзерына* — ад «анзер» (гусь).



*Васіль ХОМЧАНКА*

# Некалькі слоў маёй вёскі

Запасы народнай лексікі невычэрпныя. У кожным куточку Беларусі ёсць свае адметныя словы, якія невядомы нават у суседніх вёсках. Ёсць такія словы і ў маіх родных Канічах Касцюковіцкага раёна, што знаходзяцца на ўзмежжы з Браншчынай.

Вось гэтыя словы, якія, я думаю, могуць папоўніць скарбонку нашай літаратурнай мовы.

**Аднайме́ннік.** А́днаго прозвішча. «Мы з імі не родзічы, а аднайменнікі. Яны Кузьмянковы, і мы Кузьмянковы».

**Ахля́ць.** Аслабець, выбіцца з сілы. «Саўсім я ахляў, балеў доўга».

**Брыніць.** Калі вада моршчыцца ад ветру. «Вон вада забрыніла, ветрык прабег».

**Бэ́ка-мэка.** Дамавік. «Еты бэка-мэка ў кожным доме жывець. Толькі яго ніхто не відзіць. А ён харошае ў доме робіць».

**Вы́шчарка.** Языкастая жанчына, пляткарка. «Яна такая вышчарка, па сялу толькі злыя плёткі разносіць, Не можа не вышчара́цца».

**Ледзяніца.** Галалёдзіца. «Дождж быў, а пасля замарозіла, во і ледзяніца дарогу пакрыла».

**Лупе́ж.** Перхаць. «І мыю галаву, а лупеж не праходзіць».

**Махны́тка.** Галавешка. «Вынесі на двор ету махнытку, і юшку ў печы зачыні».

**Му́мліцца.** Не адважвацца нешта сказаць. «Гавары, што ты мумлішся!»

**Назоўка.** Мянушка. Яе фамілія Камкова, а Сарока — ета назоўка».

**Праве́йнае.** Якое прадзімаецца ветрам. «Ці ж у тваім пальто сагрэешся, яно правейнае, вецер прадзімае».

**Растапша́.** Нехлямяжая, лянівая, неакуратная жанчына. «О, яна такая растапша́, як толькі з ёю муж жывець».

**Ска́бка.** Стрэмка. «Ой, палец заскабіла, выцягні мне скабку».

**Ста́веж.** Штабель. «Вон Іван цэлы ставеж дошак напіліў».

**Хлудзіна.** Дубец. «Вазьмі хлудзіну ды гусей адгані».

**Цапо́к.** Кіёк, палка. «Дзе мой цапок? А то цёмна ісці, ды гразь на вуліцы. І ад сабак цапком адбіцца можна».

Спадзяюся, што гэтыя народныя словы будуць уключаны ў слоўнікі.

***У свеце слоў***

# Сёння

У слове *сёння сё* — з *сего*, *-ння* — ад формы роднага склону назоўніка *дзень(дьнь)*. У былым *дьн(я)* рэдукаваны *ь* страціўся, развілося прыпадабненне (поўная асіміляцыя) *д* да наступнага зычнага *н*. А на месцы *дьн-(дн-)* узнікла *нн-*. У выніку змяненняў з *сего дьн(я)* маем *сёння*.

**І. ШПАДАРУК.**



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

Наўрад ці знойдуцца нейкія чшэы нікім не сказаныя словы пра паэзію Дантэ Аліг'еры (1265—1321). Крыўдна толькі, што яго «Боская камедыя» яшчэ не мае свайго поўнага перакладу на беларускую мову. Ды ўсё-такі Дантэ гучыць па-беларуску — у перакладах нашага вядомага паэта-перакладчыка, на жаль, ужо нябожчыка, Язэпа Семяжона.

**Дантэ Аліг'еры**

***Санет XXIV з цыкла «На смерць Беатрычэ»***

Прыгнечаныя сумам пілігрымы —
Здарожаны, журботны цуг маўклівы,
Што вас вядзе пад нашыя алівы
За блізкі свет ад боскіх храмаў Рыма?

Чаму дарогі ўсе праходзяць міма
Яе магілы свежай, сіратлівай?
Няўжо спагаду гэтак запяклі вы,
Схавалі, як паяц — свой твар пад грымам?

О, калі б вам хоць кроплю нашай страты,
Вы б зразумелі жаль ва ўсім вялічны
І плакалі б наўзрыд, як я, бядача.

Пакінула нас наша Беатрычэ!
Памерла не пры мне, бацьках і брату...
Тут толькі камень, камень не заплача.

***Урывак з «Боскай камедыі» (з раздзела «Прад апраметнай»)***

«У пасяленні, выклятыя Богам,
Дзве вечны скогат, енкі і праклён,
Вас я вяду — пякельная дарога.
Прakladчык мой быў небам блаславён,
І, праўдалюб, на страх усім зладзеям,
Назваў мяне дарогай праўды ён.
Спакон вякоў няспынная, ў хадзе я
Была і буду вечнасці раўня.
Ступіўшы на мяне, пакінь надзеі!»
Я прачытаў і хмарай гругання
Замітусіўся надпіс. Баязліва
Шапчу: «Настаўнік, страх — мая радня».
А ён, празорца, у адказ мне кпліва:
«Тут трэба мець душу ў стальным адзенні,
А страху — затаіцца палахліва.
Я абяцаў прывесці ў сутарэнні,
Дзе ўбачыш ты, як голыя ў смале
Кіпяць і смагнуць грэшныя стварэнні».

І каб я крочыў побач з ім смялей,
З усмешкаю зірнуўшы хітра ў вочы,
Ізноў вядзе ў тайнік які́сь далей...

**Пераклад з італьянскай Язэпа СЕМЯЖОНА.**

***Проза***

*Дональд* ***УЭСТЛЭЙК***

# ДРАМА НА ВОСТРАВЕ

*(Апавяданне)*

Ёсць на свеце адна вечна свежая ідэя для карыкатурыста: «Двое мужчын на ненаселеным востраве. Адзін кажа...» За гэтым ідзе больш-менш дасціпны жарт, да якога змог дадумацца аўтар. Такая сітуацыя можа быць смешнаю хоць бы ўжо таму, што ў ёй удзельнічаюць два чалавекі. А як бы гэта выглядала, калі б на гэтым ненаселеным востраве быў толькі адзін мужчына?

На ненаселеным востраве, самым вялікім з групы чатырох астравоў, закінутых Богам у Ціхім акіяне далёка на поўдзень ад усіх ажыўленых марскіх шляхоў, Джым Кілбрайд апынуўся зусім адзін. Два з паловаю кіламетры ў даўжыню і паўтара кіламетра ў шырыню, востраў быў пакрыты пераважна голым, выпаленым сонцам пяскам, які ў час высокіх прыліваў залівалі марскія хвалі, і толькі ўсярэдзіне ўзвышаліся два пагоркі, на якіх сустракаліся між цёмназялёнага кустоўя чэзлыя дрэўцы. На ўсходнім баку вострава пясчаны бераг прагінаўся і ўтвараў мініяцюрную паўкруглую бухту. Над ім кружылі, хрыпла перагукваючыся, даволі буйныя птушкі. Апрача іхняга каркання ды мяккага шуму прыбою, нішто не парушала спрадвечнай цішыні.

Джым Кілбрайд апынуўся на ненаселеным востраве ў выніку шэрагу не зусім усвядомленых жаданняў і нечаканых падзей. Некалі ён быў простым бухгалтарам і меў ціхую, спакойную працу на невялікай тэкстыльнай фабрыцы ў Сан-Францыска. Ён служыў бухгалтарам і выглядаў, як тыповы бухгалтар: рост пад метр семдзесят, у дваццаць восем гадоў ужо прыкметнае пуза, прамыя чорныя і мяккія валасы, высокі лоб з залысінамі, які блішчаў пад яркім святлом лямпаў у цеснай канторы, трохі вылупленыя вочы за тоўстымі шкельцамі акуляраў у круглай металічнай аправе, што спадалі на кончык носа; гальштук звісаў з шыі, як старая аброць; касцюм, які глядзеўся б нашмат лепш на плячах стройнага, высокага, так бы мовіць, з выгляду ўпэўненага ў сабе манекена.

У той час яго звалі Джэймс Кілбрайд і ён быў вельмі няшчасны. Пакутаваў праз тое, што быў пасрэднасцю і выдатна гэта ўсведамляў. Ён жыў разам з мамаю, ніколі не захапляўся жанчынамі і амаль не браў у рот спіртнога. Калі ж яму даводзілася прачытаць якое-небудзь сумнае апавяданне, дзе ў духу сучаснага рэалізму быў выведзены вобраз непрыкметнага сарамлівага бухгалтара, на якога не звяртае ўвагі аніводная жанчына, яму заўсёды рабілася прыкра: гэта ж было напісана пра яго.

Але вось памерла маці. З такіх сумных падзей зазвычай пачынаецца, імі ж і заканчваецца большасць сучасных рэалістычных апавяданняў. Але ў жыцці ў Джэймса Кілбрайда анічога не змянілася. Як і раней, кожнага дня аўтобус тым самым маршрутам адвозіў яго ў абрыдлую кантору. Толькі ў кватэры стала крыху прасторней ды цішэй і, вядома, больш змрочна. Вось, бадай, і ўсё.

У маці была добрая страхоўка, так што пасля ўсіх расходаў засталіся досыць прыстойныя грошы. Нешта з прачытаных кніг, ці з размоў за абедам, ці невядома адкуль яшчэ наявяло яго адночы на думку купіць, сабе на здзіўленне, маленькую яхту. Яшчэ ён купіў кепку з доўгім казырком і аднае пагодлівае нядзелі, узняўшы ветразь, выйшаў адзін у прыбярэжныя воды Ціхага акіяна.

Але ўсё роўна нічога не змянілася. Гэтаксама ярка гарэлі лямпы ў задушлівай канторы, і той самы аўтобус вазіў яго на працу. Ён быў усё тым самым Джэймсам Кілбрайдам і па-ранейшаму, лежачы ўначы ў адзінокім ложку, ён мроіў жанчынамі ды іншым, цікавым і поўным дзіўных падзей, жыццём.

Маленькая пяціметровая яхта з малюпасенькай каютаю была пафарбавана ў белы колер, і ён даў ёй імя «Дорын» — імя жанчыны, якую ніколі не бачыў. Неяк, зноў пагоднай нядзеляю, калі акіян быў спакойны і чысты, а неба зіхацела блакітам, ён стаяў на палубе, глядзеў на мора і раптам падумаў, што мог бы даплыць да Кітая.

Ідэя мацнела і спакваля апанавала яго. Патраціўшы колькі месяцаў на абдумванне, чытанне даведнікаў ды іншыя справы, ён вырашыў, што сапраўды гатовы ажыццявіць такое вялікае падарожжа і даплыць да Кітая. У час плавання ён будзе весці дзённік, публікацыя якога зробіць яго знакамітым, і тады ён сустрэне дзяўчыну на імені Дорын.

Загрузіўшы яхту кансервамі ды прыпасамі вады, Кілбрайд дамовіўся на працы аб доўгім адпачынку (ён чамусьці не рашыўся звольніцца, хоць і не збіраўся ўжо калі-небудзь на тую працу вяртацца) і, нарэшце, цяпер ужо ўначы, выйшаў у адкрытае мора і здолеў нейкім цудам праскочыць цераз усе перашкоды берагавой аховы.

І вось ужо ён, схаваўшы твар ад сонца пад доўгім казырком кепкі, азіраў бязмежную акіянскую прастору.

Зрэдку на гарызонце з'яўляліся цёмныя сілуэты караблёў. Далёка-далёка ў смузе туману бачныя былі цьмяныя абрысы нейкіх астравоў. Свет вакол быў залаціста-блакітны, цішыню парушаў адно пляск вады аб борт яхты.

На восьмы дзень наляцеў шторм, і ў гэты першы ў сваім жыцці шторм ён выстаяў. Вычарпаўшы ўсю ваду, ён лёг спаць і праспаў сама меней гадзін дзесяць.

Праз тры дні наляцеў другі шторм, гэтым разам з захадам сонца пачалося нешта ўжо зусім неверагодна жудаснае, і на безабаронную маленькую яхту хлынулі шумныя чорныя горы. Яхту, бы капялюш, некуды знесла, і ён апынуўся на ашалелых хвалях.

Уначы яны вынеслі яго да вострава, пад слабую абарону маленькай паўкруглай бухты. Ён выпаўз на пясчаны бераг, куды не дакочваліся хвалі, і знепрытомнеў.

Сонца было ўжо ў зеніце, калі боль у абгарэлай шыі абудзіў яго. Кепка з доўгім казырком знікла разам з абуткам. Імкнучыся схавацца ад спёкі, ён з цяжкасцю ўзняўся і зачыкільгаў углыб вострава да чэзлых дрэўцаў.

Ён застаўся жывы. Ён знайшоў прыдатныя для яды ягады, карэньчыкі і расліны, навучыўся падкрадвацца да птушак і збіваць іх камянямі, калі тыя чысцілі пёры, седзячы на галінах.

Яму пашанцавала і ў тым, што у кішэні захаваліся непрамакальныя запалкі. З сукоў атрымаўся маленькі будан, а ў выкапанай рукамі неглыбокай яме ён распаліў невялікае вогнішча. Аднак падтрымліваць яго ён мусіў і ўдзень і ўначы: запалак было ўсяго восем.

Ён жыў. Першыя дні і тыдні поўніліся клопатам. Стоячы на беразе, ён гадзінамі ўглядаўся ў акіян, упэўнена чакаючы, што вось-вось з'явіцца выратавальнік-карабель. Ён абшнарыў востраў уздоўж і ўпоперак, пакуль не вывучыў кожную травінку ці галінку, кожны сантыметр пясчанага берага.

Але выратавальнікі ўсё не з'яўляліся. Дзеля забавы ён пачаў маляваць на пяску — сілуэты мужчын і жанчын, птушак, што з пранізлівымі крыкамі лёталі над галавою. Асабліва ўдаваліся яму параходы і дым, што валіў з іх высокіх труб. Нарэшце, ён пачаў гуляць сам з сабою ў крыжыкі-нулікі, але ніяк не мог выйграць.

Не маючы ні алоўка, ні паперы, ён усё ж пачаў ствараць кнігу аб сваіх прыгодах, кнігу, якая павінна была з дробнага клерка зрабіць яго знакамітасцю. Ствараў ён яе, не спяшаючыся, паволі падбіраючы словы, рупліва складаючы сказы, даводзячы да бездакорнасці кожны абзац. Цяпер ён стаў, нарэшце, свабодным і хадзіў па востраве, чытаючы ўголас закончаныя ўрыўкі. Але гэтага было мала, нечага ўвесь час не хапала. Праходзілі месяцы, а ён не бачыў ніводнага карабля ці самалёта, ніводнага жывога твару. Ён усё хадзіў па востраве, чытаючы ўжо закончаныя раздзелы, але гэтага было яму проста жахліва мала. Толькі адно магло змусіць яго цярпець сваё новае жыццё, і ўрэшце гэта яму ўдалося.

Ён звар'яцеў.

Дасягнуў ён гэтага не адразу, паступова. Напачатку стварыў сабе Слухача. Без твару, без узросту, нават без полу — проста Слухача. Дэкламуючы на хаду свой геніяльны твор, ён унушыў сабе, што справа ад яго заўсёды ідзе нехта, хто слухае, усміхаецца, згаджаецца і апладзіруе ў захапленні ад пачутага, на задавальненне Джыма Кілбрайда, які ўжо нічым не нагадваў ранейшага нікчэмнага клерка.

Ён амаль паверыў, што Слухач на самай справе існуе. Дайшло да таго, што часам ён спыняўся, каб растлумачыць прыхаваны, як яму здавалася, сэнс тае ці іншае з'явы, і на імгненне заставаў, не ўбачыўшы нікога побач. Праўда, потым ён хутка ачомваўся і, пасмейваючыся над уласнай дурасцю, рашыў далей дэкламаваць недачытанае.

Паступова Слухач пачаў набываць рысы пэўнага чалавека. Спачатку жанчыны, потым дзяўчыны, якая прагна лавіла кожнае ягонае слова. Пакуль ён яшчэ не ўяўляў яе твару, колеру валасоў, не чуў яе голасу, але ў яе ўжо было імя — Дорын. Дорын Пальмэр — жанчына, якую ён ніколі не бачыў і заўсёды хацеў сустрэць.

З'явіўшыся аднойчы, яна рабілася ўсё больш рэальнай. У нейкі момант ён усвядоміў, што ў яе доўгія светлыя валасы залацістага адцення, якія так прыгожа развейвае вятрыска, што набягае на востраў з боку акіяна. Ён зразумеў, што ростам яна на дзесяць сантыметраў ніжэй за яго, амаль метр шасцьдзесят, што ў яе точаная фігурка і спакуснае цела, што адзета яна ў белую туніку і зялёныя сандалі. Ён адчуў, што яна закаханая ў яго, такога смелага, моцнага і разумнага.

Гэта было ўсё роўна не поўнае вар'яцтва. Пакуль ён не пачуў упершыню яе голас.

Гэты цудоўны голас, звонкі, чысты, поўны кахання і ласкі.

— Адзінокі чалавек — гэта ўсяго толькі паўчалавека,— пашкадаваў ён аднойчы ўголас сам сябе і пачуў у адказ:

— Але ж ты не адзін.

Увесь першы, «мядовы», месяц яго вар'яцтва жыццё здавалася светлым і радасным. Зноў і зноў чытаў ён ёй закончаныя раздзелы, і час ад часу яна перапыняла яго, каб яшчэ раз сказаць, як гэта выдатна, і, устаўшы на дыбачкі, рассыпаючы па плячах залацістыя валасы, пацалавала яго, узяць яго рукі ў свае далоні і гаварыць пра каханне да яго. Ніколі яны не гаварылі пра тое, ранейшае яго жыццё, да таго, як ён трапіў на востраў, пра душную кантору, набітую тоўстымі бяздушнымі бухгалтарскімі кнігамі.

Ён паказаў ёй увесь востраў, кожную пясчынку, кожную галінку кожнага дрэва, паказаў, як яму даводзіцца пастаянна падтрымліваць агонь, бо ў яго засталося ўсяго восем запалак. А калі нячастыя штормы спрабавалі знішчыць маленечкі востраў, яны хаваліся ў кволым будане, і яна цесна прыціскалася да яго, і пяшчотнае дыханне саграваала яму шыю, і так яны чакалі, пакуль скончыцца шторм, моцна абняўшыся і гледзячы на полымя вогнішча ў надзеі, што яго не задзьме вецер.

*(Заканчэнне будзе).*

